№ 99 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на $1/2$ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 99 (191). Год II. Вільня, 11 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Замірэньне з Румыніей.

### 10 сьнежня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На фронці Фляндрыі на паадзінокіх атрэзках між Скарп і Кантэн агонь узмацаваўся. Англічане выкінуты з акопаў на заходзі ад Грэнкур.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У розных мейсцох на фронці ўзяты палонные французы. На усходнім беразі Маасу дайшоў учора значнай сілы і трываў сягоньня раніцай.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго*: на поўдні ад Гір узяты 4 афіцэры, 41 салдаты і некольки кулемётаў.

**Усходні тэатр:**

Між Днестрам і Чорным морам злучэные войскі зрабілі **ЗАМІРЭНЬНЕ З РАСЕЙЦАМІ і РУМЫНАМІ**.

**Італьянскі тэатр.**

У дэльце П'явэ мы здабылі штурмам Капо Сіле з 200 людзей.

---

БЭРЛІН. (В.Т.Б.) Нашы падводные лодкі затапілі ізноў навакол Англіі 11.000 тонн.

ЛОНДОН. „Daily News“ наказуе с Пецярбурга:

Народны камісар Троцкій 3.XII у вечары на сходзі ў цырку „Modern“ здаў справу аб працах народных камісараў. Рэзультат 8-месячнай рэволюціі — гэта мір. Каб дайсьці гэтай мэты трэбало скінуць буржуазны урад і Керэнскаго. Другой павіннасьцю было прэдлажыць зрабіць замірэньне на ўсіх фронтах, каб дайсьці міра на аснове формулы: „кожын народ плебісцытам пастанаўляе, да якой дзержавы ён хочэ належаць“. Троцкій сказаў: „Большэвікі мелі сперша мала аднадумцаў,—а цяпер за імі стаіць уся Расея, апрыч партыі кадэтаў, каторые называюць сябе партыей „народнай волі“. Далей Троцкій апаведаў аб адносінах Расеі да саюзьнікоў і адзначыў, што Керэнскій гаварыў да іх, як слуга да паноў. Але ім яшчэ пакажуць, што яны павінны знасіцца з урадам расейскаго народу на аснове роўнапраўства. Троцкій казаў: „Пачуўшы сябе сільнымі, мы ад імі расейскаго народу зрабілі мірнае прэдлажэньне. Мы зробім не дыплёматычны, а народны мір, калі наша адкрытая палітыка дасьць рэзультат“.

**Ахвяра глаунакаманнуючаго на ўсходзі для Курляндзіі і Рыгі.**

Беда і ціжары вайны выявіліся ў Курляндзіі ня ў меншай меры, чым у другіх землях Усходу, захопленых жестокай і безміласэрнай вайной. Пачалася чацьвертая ваенная зіма, і беда тым вастрэйша, што тысячы ўцекачоў вярнуліся да старых сваіх сяліб і павінны там загаспадарыцца. Рыга і ваколіцы ле яшчэ нідаўна былі мейсцом вострых бітв і ваеннаго знішчэньня. Цяпер усё трэба аднавіць і адбудоваць. У сьвядомасьці гэтаго факту глаўнакамандуючый на усходзі, Прынц Леопольд Баварскі, ахвяраваў для Курляндзіі 100.000 марак, а для Рыгі і ваколіц — 50,000 м., каторые будуць ужыты начальнікам Militär-Verwaltung Kurland, і губэрнатарам Рыгі, каб змягчыць бяду ў горадзі і на вёсцы.

ЛЮГАНО. „Corr. d. Sera“ друкуе распачлівую просьбу партыі нэутральнасьці:

„Цяпер не час вінаваціць тых, хто хацеў вайны. Калі падвоз с саюзьніцкіх дзержаў спыніцца, дык Італія апыніцца ў такой глыбокай экономічнай пропасьці, аб якой ніхто ня можэ падумаць“.

ШТОКГОЛЬМ. «Дело Народа» наказуе, што французскае пасольство,—між іншым, заявіло:

Пазыція Франціі у справе перэгавораў аб замірэньні не змянілася. Пытаньне аб міры Францыя будзе разгледаць толькі разам з расейскім установчым сэймам, бо толькі ён адзін мае права прамаўляць ад імі расейскаго народу. Французскі урад не збіраецца разрываць зносін з Расеей. Калі наступіць сепаратны мір, дык праз Расею прыдзецца падвазіць у Румынію спажыўные прадукты.

РОТТЭРДАМ. Пачатак рэволюціі ў Португаліі падобен да рэволюціі ў Расеі. Пасланые войскі не стрэлялі, і народ іх вітаў.

ПЕЦЯРБУРГ (Гавас). Масква пасылае ў установчы сэйм 5 большэвікоў, 1 кадэта і 4 соцыял-революцыонераў. За большэвікоў пададзено 245,557 галасоў, за соцыал-революцыонераў—107.238, за кадэтаў—25,328, а за меньшэвікоў—19.925.

---

## Аб нашу будучыну.

Пад громы гармат выковываюцца асновы нашай будучыны. У віры незвычайных здарэньняў сусьветнай вагі родзіцца і узгадоўваецца новае пакаленьне вольных беларусаў.

У сучасным беларускім руху да нацыональнаго адраджэньня ёсць два незвычайна важные момэнты. Першы зрабіў на Беларусі с прыганятых-нявольнікоў свабодных людзей-хлебаробаў. Гэта—вызваленьне ад паншчыны. Другі момэнт збудзіў у душы гэтых вольных людзей першые праблескі нацыональнай сьвядомасьці. Гэта—рэвалюція 1905 году.

Цяпер настаў трэйці момэнт, ня менш важны, чымсі два раней-шые: з думак-ідэалаў, аб каторых снілі мінулые пакаленьні, родзіцца жывое дзела—творыцца новае жыцьцё. У тэй чы іншай комбінаціі, на такіх або сякіх асновах будучына суліць нашаму краю волю.

Але мала таго, што ход палітычных прыпадкаў адкрывае нам дарогу да новаго жыцьця: перад намі йшчэ вялізарная работа—будаваньне таго жыцьця, рэалізація нашай волі. І вось узнімаецца пытаньне: ці запраўды здалеем мы гэну волю ўзяць?

Іншых знімае страх, знявер'е ці хопіць нам сілы на гэта? Іншые агледаюцца с трывогай навакол сябе: гдже-ж тые рукі, якіе павінны ўзяцца за работу?

Есць у гісторыі народаў дзіўная пасьледавацельнасць: нацыональные задачы насьпеваюць у меру развіцьца сіл народу, і гэнымі сіламі націа выпаўняе загаданую ей жыцьцём работу. Гэта праходзіць чырвонай ніткай праз усю мінуўшчыну. І мы верым—цьвёрда верым, што тай самы ход выпадкаў, каторы стаўляе перад намі гасударственую задачу, вызаве да жыцьця сілы, здольные выпаўніць яе.

Мала йшчэ чынных сіл беларускіх з гэтаго боку фронту, мала іх і у іншых краёвых нацыональнасьцей. Але мы ведаем, што сьцяг краёвай інтэлігэнціі працярэблен вайной—працярэблен і яшчэ раней расейскай палітычнай сыстэмай, прымушаўшай найлепшые, найбольш чынные элемэнты з нашаго краю шукаць хлеба ў чужыне—ў Расеі, бо на сваей зямлі яго не знаходзілі. Гэтые сілы пасьля вайны вернуцца да нас і дружна возьмуцца да працы для свайго краю—свайго народу. І калі цяжкіе варункі працы ў нас цяпер—у першы момэнт гасударственаго творчества, дык затое мы с поўным спакоем можэм глядзець у

Дый мала таго, што вернуцца у родны край нашы браты з арміі і з эміграціі: аснова нашай будучыны—гэта тое нарастаючае пакаленьне, каторае мае магчымасць дайсьці прасьветы ў роднай мове сваей—у беларускай школе. На нашых вачах ужо будуецца **Новая Беларусь** ад самых фундамэнтоў: ад школы, каторая узгадуе тысячы добрых, сьвядомых сыноў нашаго народу. І ў гэтым — наша буцучына, на гэтым апіраецца цьвёрдая, нязломная вера, што ніхто і ніщто ўжо ня здолее спыніць народнаго руху да адраджэньня.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). З над Дону даносяць, што Каледзін у Новачэркаску. Ен занімае становішчэ выжыдаючае. У іншых местох Донскай обласьці ўласьць знаходзіцца ў руках рад раб. і салд. і Украінскай цэнтральнай Рады. Думаюць, што Каледзін прыгатаўляецца да аружнага выступленьня. Урад чыніць энэргічные крокі, каб яго перэмагчы.

Камітэт левай часьці соцыалрэволюцыйнай партыі выбраў сягоньня урад і бюро. Гэтак адбыўся раздзел партыі. Выясьненьне адносін да ураду адложэно да канца перэгавораў аб заміреньні.

КОПЭНГАГА. Балтыцкі флот выбраў у установучы сэйм Леніна і Дубенко.

Выбары ў вёсках далі вялікую перэвагу левым соцыалістам. Рэзультаты выбароў у местох крыху лепшые для кадэтаў.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскіе імпэратарскіе клейноты прапалі з Эрмітажу. Здаецца, што іх вывязьлі ў пачатку вайны.

## Расея і Нямеччына.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Дзеля нарады з Імперскім Канцлерам у Бэрлін прыехалі фельдмаршалак Гіндэнбург і генэрал Людэндорф.

БЭРЛІН. Гіндэнбург і Людэндорф адбылі важную нараду с канцлерам Гэртлінгам, а пасьля паехалі назад у глаўную кватэру.

БАЗЭЛЬ. „Праўда“ пішэ, што Троцкій заявіў радзе раб. і салд., што ўраз жэ пасьля дачашнаго заміреньня пачнуцца перэгаворы аб міры. Іх ждуць йшчэ ў гэтым месяцы.

## З усяго сьвету.

АМСТЭРДАМ, (Рэўтэр). Тэлеграмы з Опорто апавешчаюць **аб рэволюціі ў Португаліі**. Падроб насьцей німа.

У Опорто 5 сьнежня узняліся разрухі. Народ рабаваў пекарні. Міністэр-прэзыдэнт Коста пастанавіў выйсьці у адстаўку. Новае міністэрство складаецца з дэмократаў.

Португальскіе „большэвікі“ вядуць агітацію проці учасьця Португаліі ў вайне і вітаюць разгром Італіі.

Да новаго міністэрства належыць бiўшый португальскі пасол у Бэрліне, Паэс.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

7. XII. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У заваpoці Інра—сільны агонь. Між Грэнкур і Маркойн узят штурмам хутар Ля Жістіс. Маркойн ачышчэн ад ворагоў. На поўдні ад ля Вакры ў вострых бітвах ручнымі гранатамі мы удзержалі свае пазыціі. Уварваўшыеся ворагі выкінуты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Набапол Маасу ажыўлены агонь.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскаго:* У лесі Апрэмон узяты 20 палонных.

Паручык Міллер дайшоў сваей 36-ай пабеды на паветры.

**На ўсходнім тэатры і македонскім фронці**—нічога новаго.

**Італьянскі тэатр**

У ваколіцах Сямі Грамад число узятых палонных даходзіць ужо 7 тысяч.

8. XII. **Заходні тэатр**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі пры Бэзэлярэ і на поўночы ад Варнэтон — ажыўлены агонь. У бітвах ручнымі гранатамі мы адкінулі англічан наабапол Грэнкур на колькі сот мэтраў назад. Спроба ворагоў пасунуцца ўпярод на поўначы ад ля Вакрі адбіта. Мы ўзялі 53 палонных, у тым ліку 5 афіцэраў, 2 гарматы і 15 кулемётаў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўдні ад Ля Фэр, на поўдні ад Краон і на ўсходнім беразі Маасу —жывы агонь.

**На ўсходнім тэатры і македонскім фронці**—без ніякіх перамен.

**Італьянскі тэатр:**

Число узятых палонных, пачынаючы ад 4 сьнежня, дайшло 16 тысяч.

2.XII. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На паадзінокіх адрэзках фронту Фляндрыі — на поўдні ад Скарп і між Мэвр і Бантэ — ажыўлёные бітвы.

**На усходнім театры, македонскім фронці**—без перамен.

**Італьянскі тэатр.**

На плоскагорыі Асяго, пры Монтэ Томба і пры Монтэллё — жывая чыннасць артылерыі.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БУДАПЭШТ (ВТ.Б.). Вэнгерская дэлегація. Аўстрыяцкі міністэр заграніцных спраў, гр. Чэрнін, сказаў доўгую прамову, гаворачы між інным:

„Мы не павінны забываць, што мы знаходзімся ў лепшым за Нямеччыну палажэньні. Нашы землі ачышчэны ад ворагоў, а колоніі Нямеччыны—ў руках ворагоў. Я горача жадаў-бы, каб прыйшоў момэнт, калі-б мы маглі біцца поплеч з нашымі саюзьнікамі і на другіх фронтах. Калі нашы ворагі думаюць, што здалеюць пасварыць нас з нашымі саюзьнікамі, дык яны благіе палітыкі і благіе людзі.

„У 1915 гаду Італія, не аб'яўляючы вайны, магла дайсьці тэй карысьці, аб якой цяпер і ў васьне ня сьніць. Цяпер у найлепшым здарэньні Італія можэ дабіцца такога палажэньня, якое было перад вайной. Калі яна лёгкамысна будзе далей ваеваць, дык мір будзе некарысны для яе.

„Калі Злучоные Штаты аб'явяць вайну і нам, дык гэта не адаб'ецца на развязцы вайны“.

КОПЭНГАГА. Прымас каталіцкаго касьцёла ў Даніі, біскуп Ойк, заявіў, што ў найбліжэйшых днях будзе зроблен мірны крок Папежа, міма каторага саюзьнікі ні ў якім здарэньні моўчкі прайсьці ня здолеюць.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Сэнат усемі галасамі пастанавіў аб'явіць Аўстрыі вайну.

Ніжняя Палата прыняла гэткуюж рэзолюцію перэвагай 363 галасоў проці 1 голасу соцыаліста.

Прэзыдэнт Вільсоп падпісаў біль аб аб'яўленьні Аўстрыі вайны.

ЛОНДОН. (Urađowa). Нямецкая усходняя Афрыка зусім ачышчэна ад ворагоў. Гэтак і апошняя нямецкая колонія перэйшла у англіцкіе рукі. Астаткі нямецкіх войск прарваліся на португальскую зямлю. Учынены крокі, каб зніштожыць і іх.

За месяц лістапад узяты ў палон або забіты: 115 немецкіх і 3082 чорные салдаты. Апрыч таго здабыты 2 марскіе гарматы, 1 палевая 10—цэнтымэтровая 1—7 цэнтым., 1—6 цэнт., 1—3,5—цэнт., 73 кулемёты і некалькі тысяч стрэльб.

ЦЮРЫХ. Паводлуг афіцыальнаго падрахунку ваенные выдаткі саюзнікоў да жніўня гэтаго году дайшлі 67.414 мільёнаў доляроў, а выдаткі цэнтральных дзержаў — 30.900 мільёнаў дол.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У поясе блокады навакол Англіі нашы падводные лодкі ізноў затапілі 13 000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах нашы падводные лодкі ізноў затапілі 12 000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі у паўночных водах ізноў затапілі 4 параходы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Нашы падводные лодкі ў Англіцкім канале і Паўночным моры ізноў затапілі 15.000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.